№ 18. Ausgabe B.

# ГОМАН

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрації і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 18 (110). Год II. Вільня, 2 марца 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## Добрые весьці з Заходу.

### 1 марца.

**Заходні тэатр:**

Наабапел Анкр некалькі дзён таму назад мы, дзеля некаторых прычын, сваей ахвотай і, як заўсёды, плянова ачысьцілі часць нашых пазыцій і перанесьлі зашчыту на другую, загадзя прыгатававую лінію.

Ворагі нашага руху не заўважылі. Нашы ар'ергардные варты сваімі опэраціямі перашкодзілі войску ворагоў, асьцярожна нашчупываўшаму ваколіцы, заняць без праліцьця крыві пакінуты намі, разбіты бомбамі пояс. Адступаючы перад перэважываючымі сіламі паводлуг загаду, гэтые слабые атрады прычынілі ворагам цяжкіе страты, ўзялі ў іх 11 афіцэроў і 174 палонных салдатоў, здабылі 4 кулемёты і дзержацца ешчэ перад нашымі пазыціямі.

Пасьля сільнаго агня ўчора раніцай англічане атакавалі пры Ле Транслюа і Сайі. Атака пры Ле Транслюа адбіта перад загарадзямі, а пры Сайі атака, паўторэная і ў начы, адбіта штыкамі. Уварваўшыеся ворагі адбіты контратакай і утрацілі 25 душ палоннымі. На двох вузкіх адрэзках заложэны англіцкіе „гнёзды" стральцоў.

На заходнім беразі Маасу мы зашчытным агнём недапусьцілі французскаго удару, які прыгатаўляўся раніцай.

**Усходні тэатр:**

На фронці Леопольда Баварскаго нічога новаго.

Пры сільным сьнегу, ў лясістых Карпатах быў крапчэйшы агонь толькі на ўсходзі ад Быстрыцы. На поўначы ад дарогі Валепутна расейцы ешчэ раз дарэмна атакавалі здабытые намі пазыціі. У далінах Сланец і Ойтос і на вяршынах між далінамі Сусіта і Путна адбіты атакі вялікіх сіл.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна:* Расейскіе дружыны разведчыкоў выкінуты пры Фаўрэй і Корбулю на Сэрэце.

*Македонскі фронт:* Адбіваючы італьянскіе атакі на ўсходзі ад Паралова мы ўзялі ў палон 5 афіцэроў і 31 салдата.

---

### Амэрыканскай вайны ня будзе.

ВАШЫНГТОН (Рэўтэр). Прэзыдэнт Вільсон і міністэрство заграничных спраў дзержацца тэй думкі, што ў адносінах да Нямеччыны ня трэба рабіць ніякіх крокоў датуль, пакуль Конгрэсс не дасць прэзыдэнту шырэйшых правоў. На азброеньне торговых параходаў амэрыканскае правіцельство глядзіць гэтак: яно лічыць нежаданым азброіваць параходы, які вязуць ваенные матэр'ялы.

Пасьля прамовы прэзыдэнта Вільсона кіраўнікі рэспубліканскай партіі заявілі, што яны ўсё яшчэ проці пашырэньня правоў Вільсона.

### Блокада Англіі.

АМСТТЭРДАМ. Ізноў затоплены тры вялікіе англіцкіе і адзін грэцкі параход.

БЭРН. Як даносяць з англіцкай крыніцы, на чародным заседаньні імперскай конфэрэнціі будуць разгледаць плян організаціі аднэй супольнай арміі для Англіі і ўсіх колоній, завёўшы ўсюды ваенную павіннасць.

### Ваеннае палажэньне у Пецярбурзі.

ШТОКГОЛЬМ. Глаўнакамандуючый пецярбурскім ваенным округам аб'явіў Пецярбург на ваенным палажэньні і ў адозве да работнікоў перэсьцерэгаў іх перад дэмонстраціямі.

### Пагібель расейскіх параходаў.

ХРЫСТЫАНІЯ. Адна нямецкая падводная лодка затапіла 9 добра аружных расейскіх параходаў, купленых у Палудзеннай Амэрыцэ і ехаўшых у Раманаво — апошні пункт Мурманскай чыгункі.

### Збор грошы на войско.

ВАРШАВА. На апошнім заседаньні тымчасовай дзержаўнай рады разгледалі і зацьвярдзілі статут камітэту дзеля нацыональнаго збору ахвяр на павялічэньне капіталоў дзеля організаціі польскай арміі, на агульна-нацыональные мэты і на організацію залатога фонду, або нацыональнаго банку.

---

## У гісторычны момэнт.

С кожным днём справа беларускаго нацыональнаго адраджэньня ў занятых землях знаходзіць усё мацнейшы грунт. Справа гэта ўсё крапчэй і крапчэй звязываецца з усімі праявамі нашаго грамадзкаго жыцьця, — і для беларуса здабываньне прасьветы і дабрабыту робіцца роўназначным са здабываньнем належнаго мейсца для нашаго народу ў роднай зямлі Беларускай. А разам с тым вырастаюць усё новые і новые рады работнікоў на народнай ніве, і яны — кожын у межах сваей прафэсіі — супольнымі сіламі твораць лепшую будучыну для ўсяе Беларусі.

У цяперашніх ваенных часах, калі так трудна езьдзіць з мейсца на мейсцо, калі людзі ня могуць з'ежджацца разам дзеля супольных нарад аб сваіх справах, — нам, беларусам, трэба звертаць асабліўую увагу на тое, каб, ідучы па-асобку, мы ўсё-ж такі ішлі-бы да аднэй мэты, каб усім нам адзінакава сьвяціла тая-ж самая пуцяводная зорка. Трэба, каб і інтэлігент беларускі ў горадзі, і работнік местовы, і вучыцель у вёсцы, і звычайны хлебароб—усе роўна разумелі-бы сваю мэту, ўсе роўна ацэнівалі-бы вагу перэжыванаго момэнту.

А дайсьці гэткай згодлівасьці можэм толькі тады, калі будзем кіравацца гарачай любоўю да сваіх братоў і свайго Краю, калі кінем служыць чужым багом і агледацца на чужынцоў. У найбліжэйшых месяцах, побоч са спадзеванымі важнымі здарэньнямі на ваенных тэатрах, павінна высьніцца і далейшая будучына нашай Бацькаўшчыны. Якая яна будзе — мы ня ведаем. Але мы ведаем адно: у добрай ці ў злой долі мы здалеем дайсьці сваей мэты толькі тады, калі з разрозненых, раскінутых па ўсей зямлі нашай людзей створыцца чысьленае, крэпка звязанае супольнай ідэей грамадзянство, калі сэрцы нашы будуць біцца ў адзін такт, а думкі — кіравацца да аднаго ідэалу.

I вось, кожын беларус, незалежне ад таго, дзе і на якім бы становішчы ён ні быў, павінен рупіцца аб тое, каб шырыць між акружаючымі яго людзьмі беларускую нацыональную сьведомасць, каб збіраць каля сябе шчырых сыноў народу нашаго і прыцягіваць да работы. Разам працуючы у штодзенным жыцьці, разам здабываючы свой хлеб, гэтые людзі ў патрэбны момэнт здалеюць цьвёрда выступіць за волю і шчасьце ўсяго нашаго народу, ўсяго Краю.

## Добрая навука.

Кажуць, што прыяцеля можна пазнаць у патрэбі, — і гэта справедліва ня толькі ў чыста прыватных адносінах між людзьмі, але і у грамадзкім жыцьці. Цяперашніе страшэнные часы, цяперашні крызіс, які перэжывае наш Край, найлепей выказалі, хто праўдзівы сын нашай Зямлі і хто—чужак, прыблуда.

Мы ўжо не раз адзначывалі, што між тутэйшымі палякамі пануе жаданьне прылучыць Беларуска-Літоўскі Край да Польшчы, ня гледзячы на тое, што адвечные жыхары Краю — беларусы і літвіны—і слухаць ня хочуць аб польскім панаваньні, больш для нас страшным, чым старая нявоwля. I ўжо гэтае жаданьне паказвае, што кіраўнічые кругі польскаго грамадзянства зусім не цікавяцца тым, што добра і што дрэнна для Краю, а думаюць адно толькі аб карысьці сваей нячысьленай грамадкі. Але і раней—у справах унутрэнаго штодзеннаго жыцьця, у справах залечываньня ран, зробленых нашаму Краю вайной,—перэважная часць тутэйшых палякоў адрэклася ад уселякай супольнай працы дзеля карысьці тутэйшаго народу. Найбольш яркім прыкладам гэтаго можэ служыць сумны канец Віленска-Ковенскаго Грамадзянскаго Камітэту, каторы закончыў сваё нядоўгае жыцьцё год таму назад і цяпер можэ служыць за гістарычны матэр'ял.

В.-К. Грамадзянскі Камітэт фактычна організаваўся ўжо пасьля адходу расейцоў, хаця статут яго быў зацьверджэн ешчэ расейскай уласьцю. Першымі організатарамі яго былі палякі, каторым нашы старые «гаспадары» пад той час найбольш давералі, ды нават былі абецаліся прыслаць на іх рукі для камітэту 300.000 руб., толькі с пасылкай прыпазьніліся. Калі-ж прыйшлі немцы, палякі, разумеючы, што чыста польская організація ў Беларуска-Літоўскай старонцы ня можэ быць прызнана агульна-краёвай, звярнуліся да прэдстаўнікоў беларусоў, літвіноў і жыдоў, зазываючы іх у камітэт дзеля супольнай працы.

Здавалося-бы, што пры роўнай для ўсіх працы ўсе нації павінны мець і роўные правы ў Камітэці, мець адзінакавае чысло сваіх заступнікоў. Тым часам палякі, апіраючыся на тым, што пазваленьне на аткрыцьце Грамадзянткаго Камітэту расейскіе ўласьці далі на іх рукі, прэдлажылі для ўсіх іншых разам — для беларусоў, літвіноў і жыдоў толькі палавіну мейсц у Камітэці, захаваўшы другую палавіну для сябе.

Само сабой ясна, што такая арганізапія Камітэту была зусім неправільная: выходзіло, што народы, каторые становяць аснову нашаго Краю, былі пастаўлены на апошнім мейсцы, а чысло польскіх прэдстаўнікоў зусім не адпаведало лічэбнасьці палякоў у нашым Краю. З гэтай прычыны на нарадзі беларусоў, літвіноў і жыдоў было зразу жэ адзначэно, што пры такіх варунках нельга прарочыць вялікай будучыны Грамадзянскаму Камітэту. Усё-ж такі, цьвёрда стоючы на тым, што ў гэты важны гісторычны момэнт усе грамадзяне Краю — бяз рожніцы нацii—павінны працаваць разам, беларусы, жыды і часць літвіноў прысталі на запрошэньне палякоў і згодзіліся заняць мейсцо, зусім неадпаведнае мейсцу гэтых народаў у Краю.

Камітэт, прыступаючы да працы, намеціў сабе шырокую праграму і, выпаўняючы яе, павінен быў заняць у краёвым жыцьці вельмі выдатнае мейсцо. Даволі пералічыць камісіі, каторые працавалі пры Камітэці: організацыйная, коопэратыўная, будаўляная, работніцкая, прасьветная і т п. На вялікі жаль, настраеньне польскай паловы членоў Камітэту, запрашаўшай так нідаўна іншых да супольнай працы, вельмі скора змянілося: яны ўбачылі, што, працуючы ў Камітэці, яны будуць прынасіць карысць усім жыхаром Краю—бяз розніцы нацыянальнасьці, а гэта паказалося ім зусім лішнім. Ужо тады пачала ў іх развівацца думка, што палякі ў Беларусі і Літве павінны працаваць толькі для сваей нацыональнай справы і за сваю бацькаўшчыну павінны ўважаць Польшчу. I вось яны ўсе свае сілы пачалі гуртаваць толькі ў чыста польскіх організацiях, каторые за першы пункт сваей работы паставілі: «прыдаць нашаму Краю польскі характэр» і на гэтым грунці дамагацца аддачы яго пад панаваньне Польшчы. Пры такім настраеньні і с такімі думкамі яны, само сабой, не маглі далей працаваць у Грамадзянскім Камітэці, бо ён меў на мэці паддзержываць ня толькі зруйнаваных вайной палякоў, але і беларусоў, літвіноў і жыдоў. Ды гэта зразу выявілося ў тым, што, карыстаючы са сваей чысьленай перэвагі ў Камітэці, яны стрымалі штучна работу яго. Праз некалькі месяцоў Камітэт зусім не збіраўся. Добра наладжэные і энэргічна працаваўшые камісіі яго, не маючы магчымасьці давясьці да ведама Камітэту рэзультаты сваіх прац, адна за аднэй заміралі, і толькі работніцкая камісія перажыла ўсе іншые. Урэшці беларусы і літвіны, перэканаўшыся, што палякі не дадуць Камітэту спаўняць яго задачы, дзеля слушнаго пратэсту проці польскай палітыкі ўсе разам выступілі с Камітэту, а за імі хутка пайшлі прэдстаўнікі жыдоў, работніцкіх організацый і адзін-адзіны прэдстаўнік польскаго дэмократызму.

Так, праз палітыку польскіх кіраўнічых элемэнтоў разбілася першая спроба організаваць грамадзкіе сілы дзеля працы для нашаго Краю — разумеючы пад словам «Край» усіх яго жыхароў бяз розніцы нацii. I хоць сьмерць Грамадзянскаго Камітэту была вялікай утратай для грамадзянства, яна разам с тым прынесла і карысць: яна паказала, якой «апекі» можэ наш Край спадзевацца ад Польшчы, каліб палякам удалося паняволіць Беларусь і Літву.

*І. Мелешка.*

## „Польскіе апэтыты“.

Пад гэткім загалоўкам пішэ «Вільне Слово» (№ 10—3 лютаго 1917 г.):

„На заседаньні новаутворэнай тымчасовай польскай Дзержаўнай Рады член гэтай Рады Немоёвскі, між іншым, сказаў:

„Мы (палякі) разумеем нашу гістарычную міссію, каторая вымагае пашырэньня нашых граніц на вызволеные с-пад уласьці Расеі землі, якіе самі цягнуцца да Польшчы“.

„Польская Дзержаўная Рада, як пішэ «Гоман», звярнулася з адозваю да польскіх легіоноў, клічучы іх «здабываць патрэбные для Польшчы граніцы».

„Як бачым, апэтыт палякоў, каторые ўчора стагналі пад расейскім ярмом, сягоньня вельмі вырас. Польскім панам-арыстократам хочэцца чым-скарэй накінуць беларусам і літвіном новае ярмо. За аснову да паняволеньня гэтых народаў палякі бяруць сваіх колоністоў у местох Літвы, Бэларусі і Украіны, ды паноў-памешчыкоў, якіе на тых землях пражываюць. Адных і другіх—надта невялікі працэнт, раўнуючы да сапраўдных гаспадароў Краю. Беларусы, як даведываемся з «Гомана» (№ 6), цьвёрда пратэстуюць проці польскіх апэтытоў. Іх кліч: „Ня хочэмо новай няволі!“. «Гоман» прызывае ўсіх грамадзян Беларусі і Літвы выступіць проці новых насільнікоў.

„Польскіе магнаты ашуківаюць самі сябе ды стараюцца ашуківаць іншых, угаварываючы сябе і другіх аб «гістарычнай» міссii: пашырыць граніцы Польшчы за яе этнографічные межы. Але яны памыляюцца, кажучы, бытцым суседніе землі цягнуцца да Польшчы, бо дэмакрат-беларус, як і украінец душою і целам ня можэ мець нічога супольнаго с польскім жаданьнем панаваць над другімі.

„Прыпомнім палякам, што жаданьне польскіх арыстократоў паняволіць іншые народы давяло старую Польшчу да Хмельніччыны і да гайдамацкіх бунтоў, рэзультатам каторых быў перадсьмертны кліч Косьцюшкі: „Канец Польшчы!“

„Хто хочэ свабоды для сябе, не павінен няволіць іншых народаў“.

## У Вільні і ваколіцах.

× **Лекціі з беларускай мовы.** Як нам даносяць з Вроцлава, праф. Абіхт будзе чытаць у Вроцлаўскім унівэрсытэці лекціі з беларускай мовы і ў чародным летнім сэмэстры.

Цікава адзначыць, што ў мінуўшым зімовым сэмэстры, ў якім, як мы ўжо пісалі, праф. Абіхт разбіраў «Батрака» Якуба Коласа, число слухачоў-ваенных, каторых сперша зусім не было, у канцы сэмэстру станавіло блізка палавіну ўсіх студэнтоў, хадзіўшых на лекціі праф. Абіхта.

× **Беларускі Клюб** ужо перэбраўся ў новую гасподу пры Віленскай вуліцы № 28.

Новая гаспода Клюбу — шмат абшырнейшая за старую і робіць вельмі сымпатычнае ўражэньне. Да гэтаго трэба дадаць, што Клюб завёў дужа добрую навіну: гэта—танны, прыступны для кожнаго буфэт.

У першые дні у Клюбе перэбыло многа гасьцей, і гэта суліць яму далейшае ажыўленьне. Асабліва ў цяперашні сур'ёзны палітычны момэнт кожын чуе патрэбу зыйсьціся з блізкімі яму па духу людзьмі і абменяцца думкамі.

У Клюбе — многа газэт віленскіх, краёвых і загранічных.

У нядзелю Клюб спраўляе свае «ўлазіны» ў новую хату. Нядзельны вечар мае быць вельмі цікавы.

× **Спадчына па вучоным.** Нідаўна памершый жыдоўскі вучоны Бэн Ратнэр адпісаў усю сваю аграмадную бібліотэку віленскай жыдоўскай абшчыне.

× **Павышэньне пошлін.** Ад 10 лютаго, па загаду Главнакамандуючаго на Ўсходзі, пераменены тарыфы пошлін; яны, наагул, павялічэны.

× **У местовым лёмбардзі,** Троцкая 14 (б. Францішканскіе муры), 14, 15 і 16 марца г. г. ад 10 да 2 гадз. будзе адбывацца прадажа з ліцытаціі заложэных рэчэй, для выкупу каторых мінуў тэрмін. Прадавацімуць рэчы, за каторые ня плочэны працэнты ад 31 марца 1916 г.

× **«Хрышчэньне» малака.** Наглядаючым за малаком удалося выкрыць рад людзей, «хрысьціўшых» малако. За гэта пакараны штрафам: Похальска Петрунэля—Олімпская 6 — на 150 м.; Зофія Савіцкая — вул. Жалезнай Хаткі — на 120 -м.; Антоніна Корвін-Пётровска — Росса 18 — на 90 м.; Голда Карыска—Жыдоўская 3, 13 — на 45 м.; Іта Шофэр — Радунская 4, 6 — на 90 м.; Рышэ Гобіч — Крупяны завул. 3, 2 — на 66 м.; Алена Догім — Радунская 41 — на 45 м.; Іосэль Шпіс — Субоч 68 — на 90 м.; Зофія Васілеўская — Зарэчная 5, 5 — на 50 м.; Фэйга Злочовска — Шавэльская 5, 15 — на 120 м. і Элья Рахман — Завальная 17, 6 — на 120 м.

## Рэформацкі рух на Беларусі.

Шырокая рэлігійная толеранція, здавён установленая у Беларусі, з аднэй стараны, а прывілей, выданый Вял. Кн. Літоўскім і Беларускім Казімірам паном і шляхце на паўсечасны і вольны выезд заграніцу, з другой стараны, спрыялі пашырэньню рэформацкаго руху на Беларусі. Першые сьляды рэформацкай работы у нас сягаюць пачатку XV сталецьця, калі Гіеронім с Прагі, гуссыт, будучы каля 1420 году у Вільні і Вітэбску, а такжэ мабыць і ў іншых большых местох, сеяў першые яе зерняты. Ужо у 1516 гаду у Вільні не хацелі плаціць аннаты ані шэляга Сьв. Петра і мала было собрана на одпустах (Стрыйковскі 737). Адным с першых пропагатароў лютэранства быў Францішк Ліссомані, багамолец і спаведальнік каралевы Боны і караля Зыгмонта Аўгуста. Трэба прыпісаць яго ўплывам, што кароль Зыгмонт у 1522 гаду выслаў Ліссомані да Лютра, каб той прыслаў сваіх вычыцелёў.

Каля 1525 году ксёндз Францішк Рапэгалян, літвін, вучэнь самога Лютра, меваў казаньня ў духу рэформы. Главным прыпынкам рэформы быў францішканскі кляштар, а пасьля радзівіллоўскі палац у Вільні, (дзе цяперашні дом дабрачыннасьці, каля Віленскай вуліцы). У 1539 гаду муж слаўнай Барбары Радзівіллоўны (пазьней каралевы польскай) Станіслаў Гаштолд рабіў старэньня, каб аткрыць першую у Вільні школу ў духу рэформы, але яму Капітула забараніла. Пару лет пазьней школу такую аткрыў Абрам Кулва.

Вялікіе Князі Зыгмонт Стары і Зыгмонт Аўгуст не перэпынялі рэформацкаго руху, наадварот, самі спрыялі яму і цікавіліся ім. Верхаводы протэстантызму—Лютэр і Кальвін—нават ахвяровывалі ім свае творы і лічылі іх сваімі апекунамі.

Каля палавіны шэснадцатаго сталецьця рэформацкі рух у Беларусі і Літве захопліваe шырокіе кругі грамадзянства. Навука Лютра у Беларусі шырылася найболей сярод местовых жыхароў, шляхта прыймала кальвінізм. У гэтым часе сярод паноў і шляхты рэформатарскі рух так вельмі пашырыўся, што сучасьнікі лічылі ўсю пагалоўна шляхту протэстанцкай, апроч самай дробнай, мала чым розніўшайся ад селянства. Новае вучэньне знайшло перaможных апекуноў у асобах вялікіх магнатоў. Найболей лажылі працы і коштоў на пашырэньне кальвінскай навукі фаміліі Радзівіллоў і Кішкоў. Князь Мікалай Радзівілл, маршалак і канцлер Вял. Кн. Літоўска-Беларускаго, у 1553 гаду публічна адрокся ад каталіцтва і пачаў сабіраць каля сябе выдатнейшых вучыцелёў кальвінізму. У сваім дзедзічным месьці Несьвіжы ён абаснаваў друкарню, у каторай друкаваў кніжкі. З гэтай друкарні выйшлі па беларуску кальвінскі катэхізм і Біблія, працай Сымона Буднаго і Мацея Кавэчынскаго. За кароткі час у Беларусі і ў Літве, старэньнем Радзівілла Чорнаго і Рудога, былі аткрыты і пабудаваны 163 кальвінскіе зборы, у гэтым ліку у Вільні, Кейданах, Біржах, Брэст-Літоўску, Дубінках, Гольшанах, Ашмянах, Смаргонях, Слоніме, Гродні і шмат ешчэ дзе.

У 1557 гаду ў Вільні адбыўся кальвінскі сынод, на каторы прыбыло каля ста духоўнікоў. Усе выдатнейшые беларускіе магнацкіе роды, як: Кішкі, Ходкевічы, Глебовічы, Сапегі, Служкі, Завішы, Вішневецкіе, Войны, Пацы, Абрамовічы. Волловічы, Зэновічы, Пузыны, Горскіе і шмат іншых, былі ўжо кальвіністамі.

Іншые з гісторыкоў рэформацкаго руху на Беларусі дагадываюцца, што князь Мікалай Радзівілл Чорны, шыручы кальвінізм, меў на мэці палітычную думку: ён хацеў зрабіць гэту веру верай нацыональнай для беларусоў і літвіноў.

Па сьмерці Мікалая Радзівілла кальвінізм пачаў распадацца. Шмат хто з выдатнейшых яго паплечнікоў, у тым ліку і Сымон Будны, прынялі навуку Соцына. Італьянец Лелій Соцын пярэчыў траістасьці Бога. Пашырэньню Соцыньянства на Беларусі шмат памог уцекач з Масковіі Хвядос Косы.

Соцыньянцоў (або Унітарыёў) узялі пад сваю апеку фаміліі Кішкоў і Олесьніцкіх. Сталі аткрывацца друкарні для шырэньня кніжэк у духу гэтай навукі: у Заслаўлі, каля Мінска, і ў Любчы каля Навагрудка. Полацкі шляхціц Васіль Цяпінскі перэклаў на беларускую мову Біблію і друкаваў яе у сваей друкарні.

(Канец будзе).

× **За помач у распусьце.** На апошнім заседаньні міравога суда за пасрэдніцтво ў распусьце Марыю Кравцэвіч засудзілі на 90 м. штрафу, а Рыву Худзінскую, з Антакольскай вул., укрываўшую пранцаватых прастытутак, — на 2 месяцы вастрогу.

× **Курс рубля:** афіцыальны — 2 м. 00 фэн. за рубель; у банках пры прадажы — 2 м. 26 ф., пры куплі—2 м. 30 ф.

Пазычковая каса бярэ 6%.

× **Згуба цэнных папероў.** У канцы таго тыдня тутака былі згублены некалькі цэнных папероў: Віленскаго Зямельнаго Банку, унутрэнай з выйгрышамі расейскай пазыкі I і II выпуска, 5% облігація II расейскай пазыкі і гасударственая рэнта.

× **Прапалі** ў тую надзелю Ізраэль і Рафаэль Гольдэнбэргі, 12 і 10 гацоў, са сваей кватэры пры Кальварыйскай вул. 40.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| за дзень з 25 на 26 | + 1° | —12° |
| „ з 26 на 27 | + 2° | — 2° |
| „ з 27 на 28 | + 1,5° | — 0° |

# З усяго Краю.

**Лажні.**

Дзеля замены нямецкіх грошы на «нямецкіе рублі і капейкі» атрыты разменные крамы (лажні): у **Вільні**—Вялікая 66 і Жалезнадарожная 9; у **Лынтупах** — пры станціі; у **Годуцішках** — на рынку; у **Сьвенцянах** — на станціі; у **Ново-Сьвенцянах** — пры станціі; у **Заходніх Солах** — пры станціі; у **Усходніх Солах** — пры станціі; у **Ошмяне** — побоч с Комэндантурай; у **Сувалках** — у Ратушу; у **Вержболове** — на станціі.

**Богданоў.**

БОГДАНОУ. Гэта—тыповая беларуская вёска, якой перад вайной ніхто не знаў, апрыч найбліжэйшых ваколіц. Цяпер яе апісываюць ваенные карэспандэнты ўсіх вялікшых газэт у цэнтральных дзержавах. Прычына гэтаго—тое, што Богданоў—апошняя станція чыгункі Ліда—Маладэчна і ляжыць пры самым фронці. Вёску гэту пакінулі ўсе жыхары, і ў ей цяпер жывуць толькі нямецкіе салдаты.

Дзіўнае ўражэньне робіць гэта беларуская вёска са сваімі новымі жыхарамі—ваеннымі, ў тым часі, як яе сыны беларусы знаходзяцца нет ведама гдзе.

**Арэнда вод.**

ШЫРВІНТЫ. 15 марца гэтаго году ў Шырвінцкім паветовым урадзі будуць здаваць у арэнду право на лоўлю рыбы ў-ва ўсіх вазёрах і цякучых водах павету.

Асобы, каторым прыналежаць самые воды або право лоўлі рыбы ў іх, павінны заявіць аб гэтым да 10 марца. Іначэй яны сваё право губляюць.

**4 сьмяротные прысуды.**

ШАФАРКА, Яноўскаго пав. Расейскіе ваенные Мацей Дзенісоў і Міхаіл Забалоцкі разам с тутэйшымі жыхарамі, Іванам Мікуліным і Пракопам Карпушэнкай, засуджэны ваенным судом на сьмерць за тое, што ня выдалі свайго аружжа і патроноў. 24 лютаго іх разстрэлялі ў Вілкоміры.

**Нешчасьце з аўтомобілем.**

СЭЙНЫ. У начы на 23 лютаго на шоссэ Сувалкі-Сэйны, недалёка ад Крывэ, аўтомобіль с 3 немцамі зваліўся пад аткос. Адзін з ехаўшых памёр ад ран.

**Праз злосць.**

ДЭМБОВА, Мар'ямпольск. пав. На хаўтурах у лістападзі таго году 4 дзяцюкоў напалі на пятаго, маючы на яго злосць, ды адзін ударыў яго палкай с канцом, налітым волавам, па галаве, разбіўшы яму чэрэп. Нейкім цудам ранены не памёр, але утраціў здольнасць да працы, ды яму ўвесь час вельмі баліць галава. Сувалкскі акружны суд засудзіў вінавайцу на 6 гадоў у папраўчы вастрог.

**Ешчэ аб опратках латышоў.**

Некольki дзён таму мы пісалі, што нацыональные опраткі ў латышоў блізка зусім вываліся. У атказ на гэта адзін с чытачоў «Libausche Zeitung» пішэ:

„Недалёка ад Лібавы ёсць ешчэ адно мейсцо, дзе латышы дагэтуль захавалі свае рознаколерные нацыональные опраткі. Гэта—Альшванген, у 30 кілём. ад Гольдінгену. Альшвангенскіе селяне жывуць асобным сваім жыцьцём і становяць як бытцым асобны сьвет. Суседніе жыхары называюць іх «суітамі». У каталіцкім касьцелі ў Гольдінгене іх можна бачыць у нацыональных опратках кожную нядзелю. Іх адзежа—ўся дамовай работы; так сама дома роблены аздобы, якіе яны носяць на шыі і на грудзях. На Івана Купалу ў 1916 году яны апрануліся ў свае нацыональные опраткі і спраўлялі старые купальскіе абрады“.

**«Чортаво замчышчэ».**

ТУККУМ. На палудзенным усходзі ад Туккума, каля казённаго двара Эккэндорф, у хутары Герынг ёсць стара-паганскі жэртвенік дзеля паленьня ахвяр, уложэны с 50 каменьнёў роўнай велічыні. Акалічные людзі называюць яго «Чортавым Замчышчэм».

Больш праўдападобным выдаецца другое тлумачэньне: што разбітые тут некалі швэды закапалі ў гэтым мейсцы многа золата і, каб азначыць тое мейсцо, палажылі наверх каменьня.

# ВЕСТКІ З РАСЕІ.

**Аткрыцьце Думы.**

ЛЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.) 27.II. Гасударственая Дума пасьля абеду аткрыла новую сэссію. Аткрыцьце адбылося зусім спакойна. Пасьля патрыотычнай прамовы маршалка Думы, міністэр сельскай гаспадаркі сказаў паўтарагадзінную прамову, гаворачы аб спосабах пракармленьня старонкі. На правінцію наложэна павіннасць дастаўляць збожжэ ў назначенай меры дзеля патрэб арміі і работнікоў, занятых у ваеннай прамышленнасьці.

Паступовы блок падаў жаданьне, каб правіцельство было рэорганізовано дзеля змаганьня с труднасьцямі, вызванымі вайной. Пасьля прэдстаўнікі розных парлямэнцкіх партій гаварылі аб унутрэным палажэньні староны.

Гасударственая Рада на першым заседаньні разгледала некалькі меншай вагі праектоў.

**Разрухі у сталіцах.**

ШТОКГОЛЬМ. У Пецярбурзі і ў Маскве безупынна узнімаюцца разрухі с прычыны даражыні. У тым тыдні былі разграблены 40 пекарэнь. Хаця дзеля адагрэваньня людзей, якіе грамадамі стаяць доўгіе гадзіны перад пекарнямі, пастаўлены спэцыальные печы, аднак было многа прыпадкоў замерзаньня.

Паліція атрымала «агентурные» ведамасьці, што агітатары карыстаюць са збору народу перад крамамі дзеля агітаціі і раздачы праклямацій.

**Распрадажа Расеі.**

ШТОКГОЛЬМ. Адзін з рэзультатоў саюзьніцкай конфэрэнціі ў Пецярбурзі—гэта прадажа аднаго з найбагатшых капальняных округоў, Ніжнелагільскаго, які купіло англіцкае акцыйнае таварыство за 15 мільёноў рублёў. Ешчэ перад вайной гэты округ цанілі да 100 мільёноў руб.

**Авансы прамышленікам.**

ШТОКГОЛЬМ. Як заяўляе расейскі міністэр таргоўлі і прамышленнасьці, мае быць асыгнован капітал 100 мільёноў рублёў дзеля авансоў па 6% для капальнёў і мэталюргічнай прамышленасьці. Прэдпрыемствам дзеля будоўлі параходаў будуць даваць на выгодных варунках крэдыт на 20 гадоў.

**Неудачные «кантракты».**

КІЕЎ. Абароты і лічэбнасць прыехаўшых на кіеўскі кірмаш с прычыны дэзорганізаціі руху на чыгунках вельмі незначные.

# З усяго сьвету.

**Неудаўшыйся з'езд.**

ЛУГАНО. На конгрэссе італьянскіх соцыалістоў сэкрэтар партіі сказаў, што італьянская і англіцкая соцыал-дэмократія прэдлажылі міжнароднаму соцыал-дэмократычнаму бюро сазваць прэдстаўнікоў ня толькі саюзных старон, але ўсіх сэкцій. Аднак, французская соц.-дэм. партія адмовілася ад гэтаго, бо справа міра разгледацца ня будзе і з гэтай прычыны німа патрэбы сазываць міжнародны соц.-дэм. з'езд.

**Жаданьне англіцкіх работнікоў.**

АМСТЭРДАМ. Работнікі ў Норічу дамагаюцца выдачы спажыўных прадуктоў з вялікіх провіянцкіх складоў, назначэных для флоту. Правіцельство адмовілося споўніць гэта.

**Разлад у швэдзкіх соцыалістоў.**

ШТОКГОЛЬМ. Спорки між членамі швэдзкай соцыалістычнай партіі, бышые у апошніх гадох, давялі да таго, што на 12—14 мая сазываецца конгрэсс, на якім будзе разгледацца справа утварэньня новай соцыалістычнай партіі радыкальнаго кірунку.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

**Нямецкіе апавешчэньня:**

**27.II. Заходні тэатр:**

С чысьленых наступленьнёў англічан між Соммай і Іпрам толькі адно дайшло да нашых акопоў. Уварваўшыеся на ўсходзі ад Арра ворагі былі выкінуты контратакай. Артылерыйская бітва, наагул, была звычайнай сілы.

**Усходні тэатр:**

Пры паменшаўшым марозі баевая чыннасць была вялікшая, чым у апошнім часі.

*Македонскі фронт:* Нічога новаго.

**28.II. Заходні тэатр:**

Англіцкіе наступленьня разведчыкоў проці некалькіх пунктоў фронту Артуа адбіты. У ваколіцах Анкр пяхотные стычкі перад нашымі пазыціямі мелі жаданую ўдачу. На заходзі ад Вайі, пры Эн, адна з нашых варт на рацэ папала ў рукі французоў. Контратакай мы адваевалі яе назад і вызволілі ўзятых у палон французамі.

На левым беразі Маасу адбіты мейсцовые французскіе атакі, каторые пасьля сільнаго агня пачаліся ў начы на паўночным усходзі ад Авокур. На заходзі ад Маркірха, ў Вогезах, адбіты наступленьня чатырох французскіх дружын разведчыкоў.

**Усходні тэатр.**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* Без перамен.

*Фронт эрц-гэрцога Иозэфа:* Наабапол дарогі Валепутна, у палудзеннай часьці лясістых Карпатоў, энэргічнай атакай нашы войскі здабылі некалькі вяршын, занятых расейцамі. Узяты ў палон 12 афіцэроў і 1300 салдатоў, здабыты 11 кулемётоў і 9 мінамётоў. Адбіты некалькі расейскіх контратак у начы.

На фронці Макензэна—нічога новаго.

*Македонскі фронт:* У завароці Чэрнай італьянцы атакавалі здабытые намі 12 лютаго пазыціі на ўсходзі ад Паралова. Усе гэтые сільные атакі былі адбіты з вялікімі стратамі.

**Аустрыяцкіе апавешчэньня.**

ВЕНА 26.II. **Усходні тэатр:** (гл. нямецк. апав.).

**Італьянскі тэатр:** На прыморскім фронці і на паадзінокіх адрэзках Тырольскаго фронту ізноў узняўся агонь артылерыі. Каля Вэртойбы нашы войскі ў начы ўварваліся ў занятую вялікімі сіламі ворагоў траншэю, зруйнавалі яе, перабілі салдатоў, ды рэшту ўзялі ў палон.

ВЕНА. 28.II.. **Усходні тэатр:** (гл. ням. апав.).

**Італьянскі тэатр:** На прыморскім фронці ўмяркаваны агонь артылерыі. У ваколіцах Гэрцу нашы лятуны закідалі бомбамі італьянскіе таборы. На палудні ад Мармолята мы ўзарвалі італьянскіе склады з амуніціей.

## Турэцкае апавешчэньне.

КОНСТАНТЫНОПОЛЬ. 25. II. Нашы адважные войскі, цэлы год стаяўшые ў Кут-эль-Амары, ды на ўсходзі і заходзі ад яе, адцягнуты плянова назад на заход. Ворагі зусім не заўважылі нашаго адходу.

---

АМСТЭРДАМ. Англіцкіе войскі занялі Кут-эль-Амару.

### Бітва на моры.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У начы з 25 на 26 лютаго нашы мінаносцы ўварваліся ў Англіцкі канал за лінію Дувр-Кале і ў усьце Тэмзы. У бітве з мінаносцамі ворагоў нашы мінаносцы ніякіх страт ня мелі.

Другі атрад нашых мінаносцоў зрабіў наскок на Норс Форленд, удачна абстрэляўшы тамака ваенные будоўлі і место Маргэт. Усе нашы мінаносцы вярнуліся назад цэлые.

### «Вайна да канца!»

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). 27.II. Рэйхстаг. Пры першым чытаньні бюджэту імперскі канцлер выступіў с прамовай, гаворучы між іншым: „У гэтым змаганьні за жыцьцё і будучыну нашай дзержавы, дайшоўшым найвышэйшаго напружэньня, ёсць толькі адзін кліч: „Змагацца і дайсьці пабеды“. Як будзе выглядаць мір пасьля вайны, аб гэтым яшчэ рана гаварыць. Але вайна закончыцца такім мірам, каторы здаволіць нас за ўсё, што мы выцярпелі, і забасьпечыць Няmeччыне будучыну“.

„Мы, праўда, шкадуем разрыву дыплёматычных зносін з Амэрыкай, але для нас німа адступленьня, а ёсць толькі адзін кліч: наперад! Англія пачынае ўжо разумець небасьпечнасць с прычыны падводнай вайны. Нашы ўдачы ў падводнай вайне — вялікшые за ўсе надзеі флоту. Мы цьвёрда пастанавілі дабіцца для ўсіх вольнаго мора і мы цьвёрда пераконаны, што даб'емся гатаго. Дзякуючы геніяльнаму кіраўніцтву глаўнай каманды, ўсе нашы фронты дзержацца цьвёрда. С поўнай верай мы ідзем на спатканьне наступаючых месяцоў“.

### Наступленьне на Італію?

ЛЮГАНО. «Giornale d' Italia» у аднэй стацьці гаворыць аб магчымасьці і нават пэўнасьці таго, што немцы пачнуць вялікае наступленьне на Італію. „На шчасьце,—піша газэта, — географічнае палажэньне італьянскаго фронту дае магчымасць шыбка перэкідаць сілы на ўнутрэнай лініі. Дый саюзьнікі не пакінуць Італіі без падмогі“.

### Аб салоніцкіх опэрацыях.

ЛОНДОН. Ніжняя Палата. Ділон востра крытыкуе салоніцкіе опэрацыі. Ен кажэ, што ў тым гаду у арміі Сэррайля было да 60.000 хворых. Сэррайлю не далі прошэнай падмогі, і з гэтай прычыны ён ня мог зрабіць дывэрсіі ў часі румынскай катастрофы.

### Англіцкая пазыка.

ЛОНДОН. На новую англіцкую пазыку падпіска дала 21½ мільярда марак.

## Разрыў між Амэрыкай і Няmeччынай.

ВАШЫНГТОН. (Рэўтэр). У сваім пісьме да Конгрэссу Вільсон жадае паўнамочый азброіць тарговые параходы, каб даць адпор ворагам, і «у патрэбі ўжыць аружные сілы Злучэных Штатоў дзеля абароны правоў Амэрыкі на моры“.

У сэнаці былі бурные сцэны. Рэспубліканцы дамагаліся энэргічных крокоў і пасылкі караблёў у пояс блокады.

## БЛОКАДА АНГЛІІ.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Дзьве вярнуўшыеся с плаваньня падводные лодкі затапілі 11 параходаў, тры парусные караблі і два рыбацкіе агульнай ёмкасьцю 37.500 тонн.

ЛОНДОН. (Рэўтэр). Параход параходнаго т-ва «Kunard», «Lakonija«, 18.099 тонн, ехаўшый з Нью-Іорку, затоплен.

БЭРГЕН. Ад страху перад падводнымі лодкамі тут сабралося параходаў разам на 100.000 тонн ёмкасьцю.

---

## Спіс ваенна-палонных з нашаго краю.

### З Вільні і Віленскай губэрні.

### Табор для ваенна-палонных Sagan.

Постнікоў Васіль, Сьвенцяны.
Чэрняк Трафім, Рэвкутовічы.
Грышманоўскі Сафрон, Мірш.
Любчонак Цярэнцій, Верцелен.
Схабінскі Юльян, Ябровічы.
Бошко Васіль, Вільня.
Конопкелькос Іван, Ганкоў.
Марцінкян Ягор, Ракузы.
Грышкевіч Юстын, Шэсьцель.
Яшчук Іван, „
Жук Лявон, Жукоўка.
Домбровольскі Александар, Обруль
Коваленко Пётр, Дворышчэ.
Логош Васіль, Вільня.
Неведоўскі Павал, Камаркі.
Суій Васіль, Бор.
Малавееў Якаў, Старынкі.
Рыбічонак Язэп, Пудзічы.
„ Сыльвэстар, Слабада.
Казлоў Грыгор, Ільля.
Іванец Павал, Крэменец.
Шарамэт Тэукентій, Соельнікі.
Лойка Платон, Забалоцы.
Шурко Віктор, Новікі.
Рухля Марк, Рухлово.
Петкім Пётр, Машкаяны.
Штукманн Марцін, Санічы.
Кашко Павал, Гайкоўшчына.
Ліннік Грыгор, Парышы.
Етэвіч Язэп, Прэны.
Сольнікоўскі Сымон, Серпкі.
Рыбічонак Сыльвэстар, Слабада.
Кавалёнак Антон, Піршліна.
Дзекевіч Ігнат, Подзамчэ.
Соколоўскі Стэфан, Вільня.
Тофэйко Вінцэнты, Вільгі.
Опульскі Владыслаў, Вільня.
Лотоўскі Чэслаў, Стэпановічы.
Левандоўскі Чэслаў, „
Сліжэўскі Антон, Дат'юм.
Федорэц Аркадій, Любочэў.
Сэдобріс Рафаэль, Сінічкі.
Цэткіньскі Адольф, Вільня.
Васічык Вінцэнты, Ровалі,
Даўскі Антон, Бояшні.
Малішэўскі Язэп, Фольвонік.
Боровец Болеслаў, Косукен.
Сак Александар, Бойшні.
Боводка Адам, Фотвонік.
Шэвкус Болеслаў, Понасті.
Дэйко Станіслаў, Вуковічы.
Лаврыновіч Ізыдор, Ядобар.
Даршкевіч Констанцін, Болёкі.
Пашкоўскі Стэфан, Козболец.
Бэсэровіч Антон, Половічы.
Кэршкі Ільля, Геневішкі.

### Табор для ваенна-палонных Görlitz.

Алёкса Сямён, Вільня.
Бартошэвіч Антон, Новосяды.
Бжусэ Антон, Бедзеша.
Даюшкевіч Станіслаў, Осіпан.
Федоровіч Адольф, Стажынкі.
Філён Язэп, Загошы.
Гайбовіч Язэп, Грувшыско.
Герасімоў Міхаіл, Лусішкі.
Ігнатовіч Пётр, Ів'е.
Івашкевіч Міхаіл, Вільня.
Янушкевіч Вінцэнты, Дуброўляны.
Ецэвіч Казімір, Пашкоўшчына.
Каткоўскі Ян, Сніпошчын.
Кандратовіч Стэфан, Волкоўшчыцы.
Казакевіч Вінцэнты, Чвікі.
Кавалеўскі Броніслаў, Рудні.
Крулік Гэнрык, Ліда.
Куркоўскі Броніслаў, Ново-Стосна.
Козэн Грыгор, Малевічы.
Ленартовіч Казімір, Секіроўцы.
Ліснеўскі Язэп, Эр'е.
Мулярчык Павал, Спуш.
Наруніч Ян, Бомбянцы.
Нікулевіч Людвік, Кологорышкі.
Паўлюкевіч Вінцэнты, Карклінгэ.
Прэтка Франц, Станковічы.
Рабіза Віктор, Войцехі.
Эльяшэвіч Іван, Вільня.

### Табор для ваенна-палонных Strelkowo. Stammabteilung.

Борэто Язэп, Вільня.
Чэснавік Міхаіл, „
Бужынскі Станіслаў, Войдагі.
Рынкарышэк Рувім, Вільня.
Панішэў Ягор, Войдагі.

(Далей будзе).



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Редактар В. Ластоўскі.